Сёння — зноў "тоўсты" нумар!

Рэдакцыя "РГ" выконвае сваё абяцанне у канцы кожнага месяца выпускаць нумар падвоенага аб'ёму. Падпісвайцеся на "Рэгіянальную"!

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 39(75) 27 верасня–3 кастрычніка 1996 года Цана 1500 руб.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Два дні ў Мінску з візітам знаходзіліся прадстаўнікі Дзярждумы Расіі Генадзь Зюганаў і Васіль Старадубцаў. Лідэр КП РФ прыехаў са спецыяльнай міратворчай місіяй, для пошуку шляхоў вырашэння канфліктаў паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі па пытанню рэферэндуму і змянення дзеючай Канстытуцыі. Перад паездкай Зюганаў меў кансультацыі на тэму беларускіх праблем з кіраўніцтвам Дзярждумы і прэм'ер-міністрам В. Чарнамырдзіным. Кіраўнік расійскіх камуністаў сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шарэцкім, кіраўніком і членамі Канстытуцыйнага суда, прэм'ер-міністрам і прэзідэнтам РБ А. Лукашэнкам.

У канцы візіту Зюганаў заявіў журналістам, што ён спадзяецца на мірную, у рамках закона, развязку супрацьстаяння дзвюх галін беларускай улады. Магчыма, міратворчая ініцыятыва Г. Зюганава не была падтрымана ў нашай рэспубліцы, і, хутчэй за ўсё, нашым прэзідэнтам. Вынікам паездкі можна лічыць ускосную падтрымку з боку лідэра расійскіх камуністаў Вярхоўнага Савета ў спрэчцы з прэзідэнтам. І гэта вярнула баланс ва ўплыве вядучых расійскіх палітыкаў на рашэнне ўнутраных праблем Беларусі. Да гэтага "на кані" быў прэзідэнт, якога падтрымаў сакратар Савета бяспекі Расіі А. Лебедзь.

Б. Ельцын сур'ёзна хворы і з ліпеня так і не прыступіў да выканання сваіх абавязкаў. Пераемнік яго, безумоўна, В. Чарнамырдзін, і яго меркаванне ў выніку акажацца рашаючым. Напэўна, гэта і тлумачыць паўзу ў палітычным канфлікце ў нашай рэпубліцы. І якая наогул можа ісці размова аб нашых суверэнітэце і дзяржаўнасці пры такім азіранні на суседнія дзяржавы пры рашэнні нашых унутраных праблем. Але затое можна меркаваць, што рэзкіх дзеянняў не пачне ні адзін, ні другі бок.

Пры назіранні за палітычнымі баталіямі паміж галінамі ўлады мы апынуліся адарванымі ад рэалій нашага жыцця. І яны аб сабе напомнілі. Так, сістэма кантролю чацвёртага энергаблока ЧАЭС, разбуранага аварыяй 1986 года і захаваўшага сотні тон ядзернага паліва, зафіксавала, магчыма, пачатак узнікнення ў ім ланцуговай рэакцыі. Павышэнне нейтроннага патоку адзначылі тры з дзесяці прыбораў, што сочаць за бяспекай энергаблока. Праз 46 хвілін прыборы вярнуліся да нармальных паказчыкаў. Прычыну такіх іхніх паводзінаў высвятляе спецыяльна створаная камісія.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑Яшчэ тыдзень таму на старонках друку з'явілася інфармацыя аб маючай адбыцца грашовай рэформе, аб тым, што ў сховішчах Нацбанка ўжо год ляжаць аддрукаваныя грошы. Замінка толькі ў гербе "Пагоня", які хацелі схаваць пад наклеенай зверху маркай з новым гербам. Але Нацыянальны банк РБ абвяргае гэтыя чуткі. Відаць, новыя грошы яшчэ не адзін год праляжаць у сховішчах.

❑Ва ўсіх ВНУ Беларусі з наступнага года ўводзіцца праграма абавязковага працаўладкавання каля 80% выпускнікоў. 20 верасня А. Лукашэнка на рэспубліканскім маладзёжным форуме сказаў, што Кабінету Міністраў даручана падрыхтаваць прапановы па ўстанаўленню падатковых ільгот тым прадпрыемствам, якія прымуць на работу выпускнікоў навучальных устаноў, а таксама вайскоўцаў, звольненых з тэрміновай службы.

❑Вельмі хуткімі тэмпамі ў рэспубліцы павялічваецца колькасць людзей хворых на СНІД. Па стану на сярэдзіну верасня ў 223 чалавек устаноўлены дыягназ "ВІЧ-інфекцыя". У адным толькі Светлагорску выяўлены 394 чалавекі з першаснымі станоўчымі вынікамі.

❑20 верасня ў Прэзідыўме Вярхоўнага Савета былі прыняты беларускія інваліды-спартсмены, удзельнікі Паралімпійскіх гульняў у Атланце. Яны заваявалі 13 медалёў і занялі 28-е месца сярод 115 краін свету.

❑Калі б не хмары, у ноч на 27 верасня мы маглі б назіраць за поўным зацьменнем месяца, калі ён знаходзіўся ў заходняй частцы неба.

# Смаргонцам мяняюць мэра

*СМАРГОНЬ. На нечарговым паседжанні аблвыканкома кіраўнікі горада развіталіся з пасадамі.*

Старшыня гарвыканкома Ілья Рак з Гродна паехаў дамоў з узнятай галавой. Мэр Смаргоні паспеў папрацісць аб адстаўцы. А вось яго намесніку не пашчасціла. Генадзь Сафронаў, магчыма, чакаў, што з яго знімуць раней накладзенае спагнанне. А знялі самога.

Гэтымі днямі ў горадзе можна было ўбачыць загадчыцу ўпраўлення арганізацыйнай і кадравай работы аблвыканкома Марыю Бірукову. Прыхodзіла яна і да старшыні райвыканкома. Магчыма, раіцца. Вобласць шукае кандыдатуры на вызваленыя пасады.

Існуюць версіі, што Сафронаў пабудаваў сабе катэдж і яшчэ атрымае ключы ад дзяржаўнай двухпакаёўкі. Быццам за гэта і пазбавіўся намеснік пасады. А ў мясцовым судзе днямі нібы слухалася справа аб злоўжыванні Генадзя Васільевіча службовым становішчам.

*Заканчэнне на 2-й стар.*



## Навіны

### Рэха "бітвы за ўраджай"

*МАЛАДЗЕЧНА. Калектыў калектыўнай (даруйце за таўталогію) гаспадаркі "Палачаны" абураны.*

Лідэраў жніва-96 Георгія Мясніка, які са сваім сынам Дзмітрыем на камбайне "Дон-1500" намалаціў 1022 тоны збожжа, і вадзіцеля Васіля Харашэвіча, які таксама перавысіў 1000-тонны рубеж, не запрасілі на "дажынкі" у Столін і пазбавілі заслужаных і абяцаных узнагарод. Палачанцы рыхтуюць калектыўны зварот у адміністрацыю прэзідэнта адносна гэтай недарэчнасці.

*Алесь ЛІПСКІ.*

### Валютнае паляванне фраў Рэгіны

*ВАЛОЖЫН. На працягу двух тыдняў работнікі мясцовага лясгаса прымалі ў сябе аматараў палявання з Германіі. Сёлета яны прыехалі паляваць на аленя, дзіка і казулю.*

Сярод сямі людзей са стрэльбамі была і жанчына. 30-гадовая хатняя гаспадыня Рэгіна Рысман неаднаразова палявала ў Афрыцы, Канадзе, на Аляасцы, добра валодае англійскай і французскай мовамі. На Валожыншчыне Рэгіна ў другі раз. І трэба сказаць, што фартуна найбольш спрыяла жанчыне. Менавіта на яе рахунку галоўныя паляўнічыя трафеі: адстраляла двух аленяў.

На рахунак лясгаса ад арганізацыі валютнага палявання паступіла каля 12 тысяч нямецкіх марак.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*



***Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 1997 года. Кошт падпіскі на "Рэгіянальную газету" на адзін месяц — 8 тыс. руб., на тры месяцы — 24 тыс. руб., на паўгоддзе — 48 тыс. руб. Самы надзейны спосаб застацца з "Рэгіянальнай" — падпісацца на яе. У наступным годзе наша газета будзе паступова працягваць працэс "патаўсцэння", пашырыцца тэматыка і геаграфія навін. Большае месца зоймуць займальныя матэрыялы.***

***Падпісная цана на рэшту 1996 года засталася ранейшай — 4 тыс. на месяц.***

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на** 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ** ГАЗЕТУ

Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА на** 63212 (індэкс выдання)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ** ГАЗЕТУ

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34, 37, 39.*

***Працягваем змяшчаць пералік персанальных спраў вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Калі камусьці вядомы лёс згаданых людзей, просім звязацца з рэдакцыяй.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. крым. кодэксу. | У следстве (у чыім распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 38. Круглінскі Станіслаў Эдвардавіч | 1922 | 27.05.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі | 27.05.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі, арт. 241 КК БССР, 1год |
| 39. Кулевіч Казімір Ануфрыевіч | 1890 | 14.03.1940 Ашмянскі аддз. пагранвойска ў НКВД | 17.05. 1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 40. Канавальчык Юстын Пятровіч | 1877 | 17.07.1940 Плiскі райаддзел НКВД БССР | 12.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 120 КК БССР, 8 год |
| 41. Коўзаль Станіслаў Іванавіч | 1882 | 27.08.1940 Смаргонскі райаддзел НКВД БССР | 5.06.1941 вайсковы трыбунал 3-й Арміі, г. Вілейка, арт. 73 КК БССР, 5 год |
| 42. Кобленц Гройнэм Мардухавіч | 1897 | 10.11.1940 упраўленне НКГБ Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 72 КК БССР, 8 год |
| 43. Крот Мікалай Аляксеевіч | 1921 | 29.04.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 29.04.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 44. Касцюкевіч Іван Якаўлевіч | 1913 | 16.06.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі | 16.06.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі, паст. ад 26.06.1940 |
| 45. Казак Юзэфа Канстанцінаўна | 1922 | 5.10.1940 Ашмянскае НКВД Вілейскай вобл; | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 68, 8 год |
| 46. Капіца Аляксандра Іванаўна | 1908 | 26.02.1940 III аддзел упраўлення НКВД Вілейскай вобл. | 9.07.1940 Вілейскі абласны суд, арт. 22, 120 КК БССР, 1 год 6 мес. |
| 47. Казановіч Антаніна Васільеўна | 1897 | 18.02.1941 следчы Вілейскай аблпракуратуры | 16.03.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі, арт. 217 КК БССР, 6 год |
| 48. Ліпская Юзэфа Антонаўна | 1899 | 5.01.1941 Дунілавіцкі райаддзел НКВД | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72, 74, 8 год |
| 49. Лях Соф'я Іванаўна | 1927 | 18.09.1940 нарсуд І інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 18.09.1940 нарсуд І інст. Куранецкага р-на, арт. 214 КК БССР, 7 год |
| 50. Лях Юлія Васільеўна | 1902 | 17.01.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі | 17.01.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі, арт. 241, 1 год 6 мес. |
| 51. Ляшчыцкая Алена Іванаўна | 1896 | 11.12.1940 III аддзел упр. НКВД Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, ар. 72, год |
| 52. Лушчык Марыя Васільеўна | 1899 | 27.01.1940 Пастаўскі райаддзел НКВД | 17.08.1940 надзв. нарада НКД СССР, арт. 72 КК БССР, 5 год |
| 53. Ліпская Уршуля Сільвестраўна | 1898 | 25.09.1940 Відзаўскі райаддзел НКВД Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72 КК БССР, 5 год |
| 54. Лаўрыновіч Віктар Яфрэмавіч | 1911 | 14.09.1940 Радашковіцкі райаддзел НКВД Вілейскай обл. | 12.04.1941 абласны суд г. Вілейкі, арт. 64 КК БССР, 8 год |
| 55. Лімантовіч Тэадор Казіміравіч | 1884 | 16.09.1940 Радашковіцкі райаддзел НКВД БССР | 12.04.1941 Вілейскі аблсуд, арт. 64,76, 6 год |

*Працяг будзе.*

Тэма дня

# Зімой у кватэрах будзе цёпла!—

## сцвярджаюць адказныя асобы. Але ў

*МЯДЗЕЛЕ:* На ацяпляльны сезон патрэбны 5,5 тыс. тон мазуты. Адна тысяча ёсць. Як заўсёды, жыллёва-камунальнай гаспадарцы завінаваціліся бюджэтныя арганізацыі і ўстановы. Толькі аддзел адукацыі каля 2 мільярдаў рублёў.

*АШМЯНАХ:* Жыллёвы фонд ацяпляецца дзвюма кацельнямі, якія працуюць на газе. Тэхнічныя магчымасці для нармальнага цеплавога рэжыму ёсць. Але існуе запазычанасць ЖКГ па газу— 3,6 млрд. рублёў. І спажыўцоў камунальнікам— 1,7 млрд. рублёў. Калі ўсе своечасова разлічацца, абмежаванняў па газу не прадбачыцца. Будзе цёпла.

*ВІЛЕЙЦЫ:* Адна асноўная кацельня завода "Зеніт" і 6 невялікіх на балансе камунальнікаў. На зіму патрэбна 18 тыс. тон паліва. Ёсць 1 тыс. тон мазуты. Запазычанасці няма. ГВА ЖКГ завінавацілася "Зеніту" каля 700 мільёнаў рублёў. Бюджэтныя ўстановы— такую ж суму.

*АСТРАЎЦЫ:* 2 кацельні на газе ацяпляюць жыллё і прадпрыемствы. Галаўны боль— узаеманеплацяжы.

*МАЛАДЗЕЧНЕ:* Гарачая вада ў кватэрах ёсць. Бальніцы, дзіцячыя садкі амаль усе ацяпляюцца. Будзе каманда з выканкома— падключаць і жылыя дамы. Асноўныя 2 кацельні працуюць на газе. Узаеманеплацяжы— адпаведна ліміты на газ зменшаны, таму выкарыстоўваюць мазуту.

*ВАЛОЖЫНЕ:* 2 кацельні. Адна на газе, другая на мазуце. Запазычанасць ЖКГ газавікам каля 600 млн. рублёў.

*СМАРГОНІ:* 8 кацельняў. Адна на мазуце, 2 на пячным паліве, 2 на газе, астатнія на цвёрдым паліве. Мазуты назапасілі дастаткова. Газавікам "Камунальнік" завінаваціўся 16 млрд. рублёў. Не набываецца вугаль і пячное паліва—няма сродкаў.

*Падрыхтаваў Васіль САВІЦКІ.*

# "Я жыву, нібы ў магіле"

***МАЛАДЗЕЧНА. У ліпені "Советская Белоруссия" змясціла вытрымкі з ліста жыхароў гарпасёлка Радашковічы да прэзідэнта рэспублікі. Сорак шэсць чалавек (па колькасці подпісаў) прасілі разабрацца і дапамагчы. Карэспандэнт рэспубліканскай газеты не ўтрымаўся ад каментарыя і параўнаў крык душы з даносам. А пытанне людзьмі ставілася простае: ці будзе зімой цёпла ў кватэрах?***

Добраўпарадкаваны жылы фонд пасёлка знаходзіцца на балансе камунальнай гаспадаркі, а ацяпляецца кацельняй керамічнага завода. У ЖКГ мінулай зімой не было сродкаў набыць мазуту. За цяпло разлічваўся завод. Доўг камунальнікаў прадпрыемству склаў мільярд дзвесце шэсцьдзесят мільёнаў рублёў. Сёлета керамічнаму цяжка— самому трэба аддаваць амаль сто дванаццаць мільярдаў.

Дырэктар завода К. Салагуб паабяцаў легчы касцьмі, каб вытворчасць не спынілася і прадпрыемства не збанкрутавала. Можна дапамагчы і жыхарам: жыллёва-камунальная гаспадарка верне доўг і яго адразу пусцяць на набыццё паліва. Але ў камунальнікаў няма грошай. Ім арганізацыі і ўстановы завінаваціліся мільярд дзвесце сорак мільёнаў. Такая арыфметыка. А пакутуюць ад яе людзі.

На сустрэчы жыхароў пасёлка і ўладаў узаемаразумення не было. Першыя абвінавачвалі пасялковы савет, работнікаў ЖКГ, што ў кватэрах зімой бывае плюс восем, з летам толькі марыць аб гарачай вадзе. Адваротны бок спасылаўся на несвоечасовыя плацяжы за камунальныя паслугі— 250 мільёнаў запазычанасць пасялкоўцаў.

Але, сапраўды, што будзе зімой?

**Аляксандр Кахоўскі, старшыня гарпассавета:**

— Спадзяюся, усё будзе добра. Інфармацыя аб стане спраў даведзена да вышэйстаячых органаў. Але абяцаць нічога не магу. І не разумею, чаму пытанне ставіцца аднабакова— што будзе рабіць улада? Што будзем рабіць мы ўсе?

**Аляксандр Рыжоў, дырэктар Маладзечанскага раённага вытворчага аб'ядання ЖКГ:**

— Калі нам аддадуць нашы грошы, будуць у кватэрах цяпло і гарачая вада.

**Канстанцін Салагуб, дырэктар Радашковіцкага керамічнага завода:**

— У дзіцячым садку будзе цяпло— абяцаю.

**Рабочы завода:**

— Трэба ехаць да "бацькі" ў Мінск. Хай прыедзе і навядзе парадак.

Усе разышліся, каб сабрацца праз месяц ізноў. Можа, што і зрушыцца. А пакуль магільны холад застаўся ў кватэрах і душах.

*Васіль САВІЦКІ.*



## Смаргонцам мяняюць мэра

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.*

Апошнюю інфармацыю адхіліў Мікалай Шэлег, старшыня раённага суда. А чуткі аб катэджы пацвярджае афіцыйная фармулёўка рашэння аблвыканкома: зняць "за дапушчаныя парушэнні нормаў жыллёвага заканадаўства пры прадастаўленіі 2-пакаёвай кватэры з падменнага жылога фонду Сафронаву Г. В., у якога ўжо ёсць жылы дом і які не мае патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў."

Хто стане мэрам?— для гараджан пытанне нумар 1. У калідорах выканаўчай улады ўпэўнены, што ніхто з мясцовых на пасаду не згадзіцца. Ад прапановы сесіі на месца старшыні гарвыканкома адмовіліся генеральны дырэктар ВА "Камунальнік" Браніслаў Стурліс, намеснік старшыні гарвыканкома Віктар Янчуковіч, на якога ў дні "Смаргонскай перабудовы" часова ўскладзены абавязкі мэра горада.

*Аддзел інфармацыі.*

Для тых, хто верыць Месяцу

## Месяцавы каляндар на кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядз<br>Мес.дз. | | 7<br>1.45<br>25 | 14<br>9.33<br>3 | 21<br>15.44<br>10 | 28<br>19.13<br>17 |
| Аўтор.<br>Мес.дз. | 1<br>21.19<br>20 | 8<br>2.47<br>26 | 15<br>10.43<br>4 | 22<br>16.14<br>11 | 29<br>19.53<br>18 |
| Серада<br>Мес.дз. | 2<br>22.02<br>21 | 9<br>3.51<br>27 | 16<br>11.50<br>5 | 23<br>16.41<br>12 | 30<br>20.40<br>19 |
| Чацвер<br>Мес.дз. | 3<br>22.51<br>22 | 10<br>4.56<br>28 | 17<br>12.52<br>6 | 24<br>17.08<br>13 | 31<br>21.53<br>20 |
| Пятніца<br>Мес.дз. | 4<br>23.45<br>23 | 11<br>6.04<br>29 | 18<br>13.47<br>7 | 25<br>17.35<br>14 | |
| Субота<br>Мес.дз. | 5<br>-<br>- | 12<br>7.16<br>17.47<br>30,1 | 19<br>14.34<br>8 | 26<br>18.04<br>15 | |
| Нядз.<br>Мес.дз. | 6<br>0.52<br>24 | 13<br>8.22<br>2 | 20<br>15.13<br>9 | 27<br>18.36<br>16 | |
| Дата | | 4 кастр. | 12 кастр. | 19 кастр. | 26 кастр. |
| ФАЗЫ Месяца | | 4 чвэрць | сонечн. зацьм. маладз | 1 чвэрць | поўня |

Усход Месяца— для Маладзечна.

**Крытычныя месяцавыя дні**— 4, 9, 15, 19, 23, 26, 29— патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**— 6, 10, 12, 16, 17, 30— даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

## Зацьменні ў жыцці Ф. Скарыны

(Працяг)

Масква сустрэла Скарыну непрыязна, паколькі Вялікаму князю Маскоўскаму Івану III Васільевічу, які па Авестыйскаму каляндару быў Барсуком, паведамілі, што прыехаў падданы рымскай царквы з кнігамі, што надрукаваны ў месцах, падпарадкаваных гэтай жа царкве. Вядома, што Барсук не церпіць навізны і зменаў, калі яны ідуць уразрэз з яго намерамі. Гэта быў крытычны год для Скарыны— год Чарапахі, калі ініцыятыва правальваецца на карані, засыпаецца зямлёй, згарае. Нядобразычліўцы, іх плёткі і чуткі, суды, зайздрасць, цёмныя сілы згулялі вызначальную ролю ў жыцці Скарыны, пазбавілі яго далейшай магчымасці займацца кнігадрукаваннем. Да таго ж, свецкае кнігадрукаванне падрывала манаполію як каталіцкага, так і праваслаўнага духоўніцтва на асвету.

Як вядома з гістарычных дакументаў, кнігі, якія Скарына прывёз у Маскву, публічна, па ўказу князя, спалілі. Пасля гэтага ён не вяртаўся да справы кнігадрукавання.

Згодна са старажытнымі летапісамі, 1530-1531-1534 гады характарызуюцца расперазаным злом у выглядзе саранчы, войн, апаганеннем рэлігійных традыцый, прыроднымі катаклізмамі (смерчы, стыхіі, землятрусы). Пэўныя карэктывы ў развіццё падзей унесла камета Галея.

Прагледжваюцца цікавыя паралелі. Лютэр— заснавальнік лютэранцтва, праявіўся, як Буры Мядзведзь. Расія— на высокім узроўні— Белы Мядзведзь. Менавіта таму камета 1530 г. сцерла распаўсюджванне лютэранцтва на Русі. Таму Скарына быў успрыняты ў Маскве, як носьбіт не толькі каталіцызму, але і лютэранцтва, непрыхільнай для тамтэйшай душы рэлігіі.

*Іван ШУБЦІК.*

